# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК**

№ 36 (1228) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 9 ВЕРАСНЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.




**Па роднай зямлі.** *Над Бугам.* *Фота М. Гайдука.*

Чаромха з'яўляецца адной часцінай аграмаднай артэрыі чыгуначнай камунікацыі. Адсюль адпраўляюцца пасажырскія цягнікі ва ўсіх напрамках. Не менш важную ролю адыгрывае Чаромха і ў транзітным руху.

Даўней цераз Чаромху праходзіла ўсяго некалькі цягнікоў. Зараз тут кіпіць безупынна праца. Тут заўсёды рабочыя ў чыгуначных мундзірах на сваім пасту. Ім няма ні нядзелі, ні свята.

Ужо некалькі год Чаромхаўская станцыя ўдзельнічае ў спаборніцтве працы паміж усімі вузламі цэнтральнай дырэкцыі ПКП. І займае адно з вядучых месц. У 1977 годзе заваявала першае, а ў 1978 другое месца. Ганаровыя граматы і шматлікія грашовыя і рэчавыя ўзнагароды падбадзёрылі чаромхаўцаў. Надалей самаахвярна працуюць. Сярод выдатнікаў варта паказаць: растаўшчыка вагонаў Васіля Маркевіча і Генрыка Соху, дзяжурных Васіля Астапковіча і Мікалая Кердалевіча, кіраўцыплінаваным работнікам. У адрас начальніка станцыі прыходзяць лісты з падзякай ад падарожных за ветлівасць і добрасумленнасць гэтай дзяўчыны. Да людзей добрай работы трэба таксама залічыць Міхася Патэйчука і Міхася Сілівановіча. Абодва працуюць манеўроўшчыкамі. Станцыя працуе ў цяжкіх сацыяльна-бытавых умовах. Стары барак, у якім змяшчаецца адміністрацыя і канторы, малы і нявыгадны. Будынак пачакальні таксама ў жаласным выглядзе.

## ЗЯЛЁНАЙ ДАРОГІ ВАМ, ЧЫГУНАЧНІКІ!

Чаромхаўскі чыгуначны вузел — ш[illegible]людная сям'я, якая складаецца з многіх служб. Асноўнымі з іх (і адначасова найбольшымі) з'яўляюцца рухоўагандлёвая і механічная (паравознае дэпо) службы. Не менш важныя заданні перад вагоннай службай і раёнам будынкаў. Адным словам, на чыгунцы ўсе службы важныя. Нешта затармазілася ў рухоўцаў ці вагоннікаў, і магутнае кола чыгуначнай машыны спыняе свой ход.

ніка цягнікоў Андрэя Кавальчука, агента і адначасова сакратара партыйнай арганізацыі Мікалая Раманчука. Гэта не толькі авангард рабочага калектыву, гэта таксама ветэраны службы. У кожнага з іх звыш дваццаціпяцігадовы стаж працы. Сярод маладых працаўнікоў многа добрасумленных людзей. Вось, напрыклад, Вольга Ігнацюк, кандуктарша. Працуе ўсяго некалькі гадоў, а паказала сябе выдатным і дыс-

Нягледзячы на ўсё гэта, рабочы калектыў станцыі паспяхова выконвае свае планы.

З нагоды свята чыгуначнікаў усім працаўнікам у чыгуначных мундзірах і іх сем'ям жадаем самых найлепшых поспехаў у працы і ў сямейным жыцці.

Зялёнай дарогі вам, чыгуначнікі!

**Ул. Сідарук**

## ВЕРАСЕНЬ, 1939

Беласточчыну — разам з Беластокам — гітлераўцы акупіравалі ў першай палавіне верасня 1939 года. Не лічыліся яны з нікім і нічым. Іх фюрэр, Адольф Гітлер, ім прарочыў:

*„Нашай мэтай не з'яўляецца заваёва акрэсленай тэрыторыі, а знішчэнне жывой сілы праціўніка. Будзьце бязлітасныя... Права на баку моцных. Я паслаў на ўсход свае часці „Тотэнкопф" („мёртвых чэрапаў") і загадаў ім, каб яны без хістання і літасці забівалі ўсіх мужчын, жанчын і дзяцей польскай расы і польскай мовы".*

## СТРАЛЯЦЬ ВА ЎСЁ ЖЫВОЕ

Спіскі асоб „небяспечных" для вялікага рэйха і фюрэра гітлераўцы састаўлялі ўжо загадзя. Памагалі ім у гэтым свае даверавыя людзі, „фаўманы". Яны выдавалі патрыётаў і прагрэсіўных дзеячоў. А пасля „ачыстку тэрыторыі", як гаварылі акупанты, праводзіла „Айнзацгруппэ IV" (спецыяльны атрад) ды іншыя паліцэйскія часці, якімі тады на Беласточчыне камандаваў брыгадэнфюрэр СС Бойтэль.

Але і гітлераўская армія (вермахт) не адставала ад сяброў з СС. Камандуючы армейскай групай „Поўнач" генерал-палкоўнік фон Бок 10 верасня 1939 года аддаў усім падкамандным часцям загад аб адносінах да цывільнага насельніцтва, а дакладней кажучы, загад, на аснове якога нямецкім салдатам дазвалялася расстрэльваць без суда і доследу кожнага ваеннага і цывільнага чалавека, паліць і разбураць вёскі і мястэчкі, а ўсё „дзеля аховы войска", як гаварылася ва ўступе да гэтага загаду.

Трагічных вынікаў такога „благаславенства" не давялося доўга чакаць. Кожная прычына была добрай, каб забіраць і паліць. Польскі першы батальён 135 палка пяхоты прарваўся праз граніцу Усходняй Прусіі і заняў прыгранічную вёску Просткі. Салдаты вермахта супольна з членамі СА адпомсцілі гэтую дзёрзкасць палякаў на мірным насельніцтве вёскі Богушы. Забілі многа людзей, спалілі будынкі і ўсю маёмасць жыхароў. Такі ж трагічны лёс сустрэў жыхароў вёскі Ліпіны, дзе з дымам і агнём паляцела ў неба 30 сялянскіх сялібаў разам са збожжам і жывёлай. Да тых гаспадароў, што спяшалі ратаваць сваю маёмасць ад агню, нямецкія салдаты і іх сябры з СА стралялі як да качак.

Салдаты Сувальскай брыгады кавалерыі патрапалі гітлераўскіх ваякаў з 3 бронетанкавай дывізіі, якой камандаваў генерал-паручнік Швэпэнбург. Раз'юшаныя баявой няўдачай вермахтаўцы напалі на вёску Альшэва. Расстралялі больш 80 чалавек, а ў вёсцы Москвін

(Працяг на стар. 4)

## ЛЯВОНАВА ДОЛЯ



— Мы ўжо тут усё гэта амаль напамяць знаем. Збярэмся, бывала, і — Дзядзьку, дзядзьку раскажыце нешта; а то як у Аргенціну ездзілі, а то як у рэвалюцыю было. А ён: „Ну, ну, — паківае галавою, пацмокае, нібы смакуе, што выбраць, прыжмурыць вока і пачне. Хто яго там ведае — праўда гэта ці не, але складна выходзіць, усё роўна што чытае.

Лявону Таранту 77 год, з якіх 14 прайшло па-за роднай вёскай, далёка па-за Шарнямі, сярод чужых.

— А думаеце з чаго? З гора выязджаў, не з роскашы. Каб так на сённяшнія часы, на такое жыццё, хто б там па Амерыках ездзіў! Тут жыві, хоць ты расперажася.

*Бывало едеш в город —*
*Лошадёнка едва, едва порожній воз*
*ташчыт,*
*Ізмучана, істомлена,*
*І з ушаў капатіт.*
*А тепер как едут в город —*
*Лошадка весело бежыт*
*Голов к верху держыт і рэхотіт,*
*Как будто бы кому-то і она*
*благодарыт.*

О, бачыце, нават і каню жывецца лягчэй, — гаворыць.

У бацькоў іх было 6 — чатыры дачкі і два сыны. Восем чалавек на чацвяртусе поля, якое аралі яшчэваламі.

— Маё дзяцінства хадзіла па палосках з сярпом або за валамі.

*Я помню сваё малалецтва,*
*Когда мой отец деревяной сохою*
*поле орал,*
*І меня он брал з собою,*
*Што б я ему волы бічом поганял.*

— Школы закончыў я ўсяго толькі 3 класы. Каб так на сённяшнія часы, магчыма, што і вышаў бы на якога пана. А так дык толькі, што распішуся ды прачытаю. Гэта ўсё, што гавару вам, маю ў памяці, усё жыццё, ад 8 год, у вершах. Вы там некалі друкавалі раз ці два, — расказвае.

— Я ўжо гаварыла свайму старому: Ці табе хлеба дома не хапае, што ты ўжо ў газету пачаў слаць? Ад людзей

(Працяг на стар. 4)

 




**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku.
Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 1537. Nakład 7380 egz. S-2




*Г. Барысаў. У дзіцячай бібліятэцы.* *Фота Яўгена Казюлі.*

КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА

# ШЧАСЦЕ ЎСІМ ДЗЕЦЯМ

Савецкі Саюз — першая ў свеце краіна, дзе выхаванне дзяцей стала дзяржаўнай справай. Усе мы памятаем словы, сказаныя Леніным у першыя, цяжкія і галодныя, гады Савецкай улады: „Мы, дарослыя, пагаладаем, але апошнюю жменьку мукі, апошні кавалак цукру, апошні кавалак масла мы аддадзім дзецям". З таго часу засталося нязменным правіла: усё самае лепшае — дзецям! І ў праграме КПСС запісаны словы: „Забяспечыць шчаслівае дзяцінства кожнаму дзіцяці — адна з найбольш важных і высакародных задач будаўніцтва сацыялістычнага грамадства". Правы савецкіх дзяцей шырока адлюстраваны ў новай Канстытуцыі СССР.

Клопаты аб дзецях — гэта перш за ўсё клопаты аб дабрабыце кожнай сям'і, аб жанчыне-маці. Магчымасць творча працаваць, павышаць свой прафесіянальны і агульнаадукацыйны ўзровень, паляпшаць свой быт.

З году ў год, напрыклад, паляпшаюцца жыллёвыя ўмовы нашых сем'яў. Толькі ў мінулым, 1978 годзе, у Беларусі пабудавана жылых дамоў агульнай плошчай 4,3 мільёны квадратных метраў, палепшылі свае жыллёвыя ўмовы больш 400 тысяч чалавек. Усяго ў рэспубліцы за дзесятую пяцігодку плануецца пабудаваць 23 мільёны квадратных метраў жылля, гэта значыць, палепшыць жыллёвыя ўмовы двум мільёнам чалавек. Тысячы хлопчыкаў і дзяўчынак разам са сваімі бацькамі атрымаюць лепшыя ўмовы для вучобы, адпачынку і працы дома.

У савецкай краіне жанчына паспяхова спалучае свае вытворчыя і грамадскія справы з выхоўваннем дзяцей. Дзяржава бярэ на сябе клопаты аб здароўі і шчасці маці і дзіцяці: толькі дзіцячых паліклінік у рэспубліцы больш трохсот.

На дапамогу шматдзетным сем'ям, адзінокім маці ў мінулым годзе ў рэспубліцы было прызначана больш 40 мільёнаў рублёў. Згодна з сацыяльнай праграмай партыі на дзесятую пяцігодку будзе ўведзена частковая аплата водпуску маці ў час догляду дзіцяці да аднаго года.

У краіне шырока развіваюцца ўсе формы грамадскага выхоўвання дзяцей. Цяпер больш чым у 3130 дзіцячых дашкольных установах рэспублікі выхоўваецца каля 400 тысяч малышоў. Аднак патрэбы ў такіх установах значна растуць, і таму з кожным годам павялічваюцца выдаткі на гэтую мэту. Так, у 1979 годзе на ўтрыманне дзіцячых дашкольных установаў з бюджэта рэспублікі накіроўваецца 89,1 мільёна рублёў, што на 4,4 мільёна рублёў больш, чым у 1978 годзе.

Самыя лепшыя, самыя відныя і прасторныя дамы ў гарадах і вёсках — гэта школы. Асаблівыя клопаты аб школе праяўляюць партыя і дзяржава — у СССР ажыццёўлена ўсеагульная сярэдняя адукацыя, ідзе далейшае паглыбленне палітэхнізацыі вучэбна-выхаваўчага працэсу. Цяпер у школах вучні здабываюць першыя прафесіянальныя ўменні па 53 спецыяльнасцях.

У школах уводзіцца бясплатная выдача падручнікаў. Вучні могуць хадзіць на заняткі груп прадоўжанага дня, вучыцца ў школах-інтэрнатах — усяго ў рэспубліцы гэтыя групы і школы наведвае каля 250 тысяч дзяцей. У вольны час школьнікаў гасцінна вітаюць Палацы і Дамы піянераў, дзіцячая чыгунка, станцыі юных тэхнікаў і натуралістаў, дзіцячыя паркі і стадыёны, клубы зацікаўленняў — толькі ў Беларусі іх больш 250.

Уся сістэма выхавання дзяцей дапамагае малым не толькі зразумець, кім быць, але перш за ўсё — якім быць. З першага іх кроку па зямлі мы вучым дзяцей дабру, справядлівасці, прыгажосці, адвазе, патрыятызму, дружбе з іншымі народамі, уменню разумець чужую бяду, аказваць дапамогу тым, каму яна патрэбна. Мы імкнемся, каб нашыя дзеці раслі ўсебакова развітымі, разумелі, цанілі найвышэйшыя дасягненні людскога генія і самі множылі іх. Гэтай мэце падпарадкавана ўсё — выхаваўчая місія сям'і, дзіцячых дашкольных установаў, школы, праца тэатраў, клубаў, кіно, бібліятэк, выдаванне кніжак, газет, журналаў, радыё- і тэлеперадач.

У рэспубліцы, напрыклад, працуе тэатр юнага гледача, лялькавы тэатр, сотні дзіцячых музычных школ і мастацкіх студый, калектыў мастацкай самадзейнасці, ёсць рэспубліканская школа-інтэрнат для асабліва здольных дзяцей, рэгулярна праводзяцца конкурсы і арганізуюцца выстаўкі дзіцячага малюнка, тэхнічнай творчасці малых, выстаўкі „Прырода і фантазія" і шматлікія іншыя.

Як і ва ўсёй краіне, у рэспубліцы вялікая ўвага прысвячаецца выпуску кніг для дзяцей — каля 9 мільёнаў экземпляраў, 114 назваў выпушчана ў 1978 годзе.

Дзяржава падтрымлівае стабільнасць цэн на галоўныя тавары шырокага ўжытку, захоўвае нізкі ўзровень цэн на тавары для дзяцей.

З пачуццём асаблівай гордасці ў Міжнародны год дзіцяці мы яшчэ раз падкрэсліваем: тое, што ў рамах гэтага года высоўваецца як доўгатэрміновая праграма на будучыню, у савецкай краіне ўжо даўно стала рэальнасцю.

**М. Карпенка,**
галоўны рэдактар журнала „Работніца і сялянка".


**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ":**

**Валілы ● Гаспадарка Гайнаўскай гміны ● Бельская бурса ● Мінскі камвольны камбінат ● Мацвеевы медалі ● Бацькі і дзеці ● Мікалай Шэршань ● Дыскусія: чаму моладзь уцякае з вёскі ● Весткі з Гарадка, Заблудава, Ягаднікаў, Белавежы, Завыкаў, Гайнаўкі, Дубіч, Грыгораўцаў ● Калі сніцца малако ● Дзе знайшоў Кастусь грошы ● Песня „Bubliczki".**


## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 9 IX** — 8.30 Program dnia. 8.35 Antena. 9.00 Teleranek, a w nim m.in. Detektywi na wakacjach. 9.50 Dożynki Centralne. 13.10 Dziennik. 13.25 Na bezdrożach Amazonii. 13.45 Koncert życzeń. 14.25 Losowanie Dużego Lotka. 14.40 Niedziela na Bielanach. 15.05 Zgadnij kim jestem — teletur. 15.50 Tele-echo. 16.50 Gdy nadchodzi wrzesień — radz. film fab. 18.20 Studio sport. 18.50 Wystąpienie Ambasadora Bułgarii. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.15 Korzenie — odc. I film. fab. USA. 21.20 Studio sport. 21.35 Muzyka małego ekranu. 22.15 Siżyś — St. Cat-Mackiewicz.

**Poniedziałek 10 IX** — 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Naucz. pocz. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Zwierzyniec. 17.00 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.30 Prawdzie w oczy — pol. film fab. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Teatr Tel. Stanisław Grochowiak — Trismus. 21.45 Śledztwo zostało wznowione. 22.25 Dziennik. 22.40 Gdy płoną książki.

**Wtorek 11 IX** — 15.25 Program dnia. 15.30 Klub Seniora. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Studio Młodych. 17.00 Klinika Zdrowego Człowieka. 17.25 Między nami jaskiniowcami. 17.50 Sonda. Agent nr 006 melduje. 18.15 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Gwiżdżę na wszystko — radz. film fab. 21.50 Camerata. 22.15 Dziennik. 22.30 Studio sport.

**Środa 12 IX** — 15.25 Program dnia. 15.30 NURT — Mat. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Program dla dzieci. 16.55 Losowanie Małego Lotka. 17.05 Dom i my. 17.20 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 17.50 Transmisja II poł. meczu piłkarskiego CSRS — Polska. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Filmy z lamusa — komedie USA. 21.10 P. nożna: Szwajcaria — Polska.

**Czwartek 13 IX** — 15.25 Program dnia. 15.30 Decyzje piętnastolatków. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.30 Czwartek TDC. 17.30 Skarbiec. 17.55 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.25 Patrol. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Aniołki Charliego — film krym. USA. 21.10 Pegaz. 21.55 Dialog. 22.25 Dziennik. 22.40 Hokej. Mecz CSRS — ZSRR.

**Piątek 14 IX** — 15.25 Program dnia. 15.30 NU[illegible] — ped. 16.00 Obiektyw. 16.20 Dziennik. 16.[illegible] Piątek z Pankracym. 16.55 Magazyn motor. 17.25 Nie tylko Budapeszt. 17.45 Dzień dobry, w kręgu rodziny. 18.15 Najmłodszy z rodu Hamrów — film fab. CSRS. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.15 Blizna — polski film fab. 22.00 Dziennik. 22.15 Świat, ludzie, idee.

**Sobota 15 IX** — 13.25 Program dnia. 13.30 Radzimy rolnikom. 13.40 Obiektyw. 14.00 Dziennik. 14.10 Orbita. 14.40 Latarnia czarnoksięska. 15.10 Jej pierwszy bal — franc. film fab. 17.15 Szanujmy wspomnienia. 18.10 Studio sport. 19.00 Dobranoc. 19.10 Siódemka. 19.30 Dziennik. 20.30 Poznać prawdę — western USA. 21.50 Studio sport. 22.05 Dziennik. 22.20 Boso, ale w ostrogach — musical.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 7 IX** — 8.00 Folklor a literatura białoruska. 8.50 Film fab. 18.55 Film fab. 20.35 Sopot — 79.

**Sobota 8 IX** — 8.05 Koncert zespołu „Wier[illegible]sy". 10.40 Koncert. 14.20 Film dla dzieci. 15.[illegible] [illegible]ilmy animowane. 16.05 W świecie zwierząt. [illegible].05 Piosenka — 79. 20.35 Hokej. ZSRR — Kanada.

**Niedziela 9 IX** — 10.00 Film fab. ser. 13.00 Spektakl. 16.00 Film animowany. 16.15 Koncert. 17.00 Panorama międzynarodowa. 18.00 Koncert. 19.00 Klub podróżników. 20.35 Hokej. ZSRR — Finlandia.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05—12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Nie strzelać do nauczyciela — kanad. 11—12. Czarne i białe w kolorze — fr. 13—14. Gdy obok jest mężczyzna — radz. 15—16.

**Bielsk Podl.** Szczęki — USA 10—13. I ty zobaczysz niebo — radz. 13—14. Zmory — pol. 15—16.

**Czeremcha** Deszczowy lipiec — pol. 11—12. Opowieść atlantycka — pol. 15—16.

**Czyże** Biały Mazur — pol. 12—16.

**Gródek** Hazardziści — pol. 15—16.

**Hajnówka** Zabójstwo chińskiego maklera — USA 10—12. Wdowieństwo Karoliny Zasler — jug. 13—14. Stracenie Judasza — wenezuelski 15—16.

**Michałowo** Zejście do piekła — pol. 11—12. Wyspy na Golfstromie — USA 13—14. Ślad rosomaka — radz. 15—16.

**Mielnik** Pójdziesz ponad sadem — pol. 12. Przygoda z piosenką — pol. 15—16.

**Narewka** Anatomia miłości — pol. Ciemna rzeka — pol. 12—16.

**Nurzec** Dzieje grzechu — pol. 11—12. Jarzębina czerwona — pol. 13—14. Zaczarowane podwórko — pol. 15—16.

**Orla** Wśród nocnej ciszy — pol. Goździki w celofanie — NRD 12—16.



 

вуць, у якіх дамах жывуць, як апранаюцца. Рабочых гэтак збіраў. Ат, — думаю, — адзінокі я, а ў брата сям'я — жонка, двое дзяцей, паеду, зараблю, ім дапамагу. Прадалі дзесяціну зямлі, каб было на дарогу, і пачаў збірацца. Яшчэ тут адзін з нашай вёскі ехаў.

*І вот настала время разлучацца,*
*Прышла пара мне выезджать.*
*Сазваў радных сваіх прашчацца,*
*І не прыдётца больш іх відать.*

І паехаў у свет шукаць шчасця. Апынуўся ў Аргенціне. Чужая мова, чужы народ. Праўда, ёсць прыгожыя дамы, плаваюць караблямі, ходзяць прыгожа апранутыя, але ўсё гэта не для рабочых, усё не так, як расказваў агент. Хатай рабочых была палатка, каля якой пасля дажджу поўзалі вужакі, а ўсім багаццем — падарожны мяшок. Часта даводзілася некалькі дзён галадаць, чакаючы працы. Неаднакратна задумоўваліся, за якую кару яны сюды папалі.

*І расказуем прычыны,*
*Хто чэрэз што сюда папал:*
*Одін кажа — Я чэрэз жонку.*
*Другой — Я чэрэз людей.*
*А трэті — Я чэрэз девчонку.*
*А чацвёрты — Я чэрэз ....*

У Аргенціне Лявон Таранта прабыў 6 год.

— Праўда, потым мне пашанцавала знайсці працу. У аднаго гаспадара наняўся. Тры гады працаваў, а зямлі ў яго было многа — 90 гектараў. Крыху зарабіў, нават і брату паслаў.

Сум за родным домам, за знаёмымі не давалі спакою, тым больш, што візія шчаслівага амерыканскага жыцця, створаная агентам, знікла адразу, як толькі сюды прыехаў. Вырашыў вяртацца.

— О, гаспадар то яго нават не хацеў пусціць, так яму спадабаўся. Са сваёю дачкою ажаніць хацеў, — гаворыць жонка, — 6 коней даваў, 14 гектараў зямлі.

— Калі яна такая дзіўная была — ні то нармальная, ні то дурнаватая. Упадзе ёй з рук талерка ці міска, дык яна стукне яе нагою і як зарагоча. Смешная такая была. А старэйшай выдаць не хацеў, кавалера мела, — паясняе Таранта.

У 1933 годзе, пасля шасцігадовага блукання па чужых кутках, з палёгкай уздыхнуў, знайшоўшыся ў Шарнях. Купіў крыху зямлі ды хату, ажаніўся, аддзяліўся ад брата і пачаў самастойна гаспадарыць. Многа яшчэ трэба было перажыць. То абакралі, то вайна — зноў усё разбурана.

— А ў нас тут былі баі, — уключаецца жонка. — Савецкіх салдат мы скрывалі. Адзін быў ранены, то мы яго цэлай вёскай па чарзе гадавалі. Дык ён, каб адудзячыцца, галёшы вясковых навучыў клеіць. Потым у нас большасць вёскі гэта рабіла, зараблялі так.

Сёння Таранты жывуць па-другому. Не трэба нанімацца да працы, не трэба ездзіць за куском хлеба за акіян. Выгадавалі яны 7 дзяцей. 6 сыноў і дачку. Яшчэ і самі пакрысе гаспадараць. Гусей гадуюць. Штогод па 50-60 здаюць.

— Добра цяпер жывецца. Усё перамянілася, — гаворыць дзядуля.

**Міхась Шаховіч**
Фота аўтара



# ПЧАЛЯР

Васіль Асіпюк з Пасынак — заўзяты пчаляр. У яго ў невялічкім садочку аж 60 пнёў з пчоламі. „Пні" — гэта так па-пчалярску гаворыцца, а ў сапраўднасці ў яго 60 прыгожых вулляў-домікаў з сотамі. Дзядзька Васіль задаволены сёлета пчоламі. Чэрвень выдаўся сонечны, квяцісты, і пчолкі добра пастараліся. Ужо тады ўдалося дзядзьку падабраць у іх добрую ўзятку мёду. Трошкі горшы быў ліпень. А пра мінулы год дзядзька Васіль нават успамінаць не хоча — марны быў, як ніколі. Яшчэ і пчолам трэба было нешта даваць, бо галодныя былі.

Праўда, Васіль Асіпюк не толькі на пчол спадзяваецца. Ён гаспадарыць разам са сваім зяцем Міколам Семенюком. Сваёй зямлі было толькі 6 га, гэта малавата як на дзве гаспадаркі, дык яны арандуюць яшчэ тры гектары з дзяржаўнага фонду зямлі. Нядаўна закончылі будаваць вялікія новыя мураваныя хлявы і клуню. Гадуюць свіней (сёлета здалі дзяржаве 16), 5 дойных кароў трымаюць ды яшчэ маладняк. Абзавяліся патрэбнымі машынамі — што купілі асобна, а іншыя разам, у суполцы, з суседзямі. Пачалі вырошчваць гародніну пад фоліяй і ўжо сёлета мелі раннія памідоры і капусту.

Адным словам, жывуць і гаспадараць па-новаму, па-сучаснаму: машынамі, з сельскагаспадарчымі ведамі і з алоўкам у руцэ.

**(яч)**
Фота аўтара

## ФАЛЬКЛОР — ВЯСЕЛЬНАЯ




*Матулю мая родна, што мне дзісь за сон сніўсе —*
*галубкі па падвор'ю чорны шнюр папушчалі,*
*чорны шнюр папушчоны, срэбрам-злотам абтычоны.*
*— Маладая Манечко, малады розум маеш,*
*малады розум маеш, сваго сну ні згадаеш!*
*Галубкі — твае сваткі, чорны шнюр — твае косы,*
*чорны шнюр — твае коскі, срэбро-злото — твае слёзкі.*

Ад Антаніны Лясоты, 1901 г. нараджэння, вёска Цісоўка гм. Міхалова, якая цяпер жыве ў Беластоку, запісаў у сакавіку 1979 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфравала Л. Панько.

Запіскі натураліста

# ТАЯМНІЧЫЯ З'ЯВЫ Ў АСПЕКЦЕ ІХНАГЕАЛОГІІ

Навакольны свет прыроды вельмі складаны. Шматлікія матэрыяльныя часціны мы назіраем непасрэдна, сваімі вачыма. А каб убачыць нешта больш, звяртаемся за дапамогай да прыладаў. Існуе толькі свет матэрыяльны. Пустата — гэта паняцце фізічнае. Усе з'явы прыроды адбываюцца пад уплывам сіл матэрыяльных. Аднак жа існуе матэрыя супрацьлеглая нашаму навакольнаму свету. У сутнасці гэта і ёсць антыматэрыя (АМ). З прычыны асаблівага складу дзеянне сіл АМ таямнічае і часта супярэчыць нашаму разумнаму сэнсу. Сілы АМ існуюць ды і няма магчымасці іх даследаваць нашымі прыладамі.

А вось некаторыя з'явы, прымеркаваныя строга да асаблівасцяў іхнагеалогіі тэрыторыі ды часу.

Сяло. Гаспадар купіў парасят. Усе чорныя здохлі, а белыя засталіся. — Ноч. Стук у хляве. Конь цяжка дыхае, увесь мокры, быццам на ім чорт катаўся (мал. 1). Жывёла стараецца выбегчы з хлява. У другіх выпадках — стаіць, апусціўшы галаву, слёзы цякуць з вачэй. Гнядыя не вядуцца. Купіў другой масці — выжыў.

Даследаванне месца прыводзіць да вываду, што ў глыбіні зямлі скрыжоўваюцца водныя крыніцы. Іхнагеалогія: грунт гліністы, са слядамі жыццядзейнасці арганізмаў — норы, ходы і іншыя, але пустыя. Бусліных гнёздаў няма. Буслы ніколі не пасяляюцца ў гэтакіх мясцінах.




Быццам усё ясна. Дык чаму ж гэтае ўздзеянне адбываецца ўначы ды ўплывае толькі на акрэсленую масць жывёлы: чорную, белую, шэрую ці іншую. А што сплятае грыву каню? Чаму ён спацеў і плача?

Дзеянне таямнічых сіл адчуваюць не толькі жывёлы. Чалавек — не выключэнне, незалежна ад вучонасці, ды грамадскага становішча. Перабудова хаты з пераносам на новае месца бывае прычынай хваробы, ці наадварот — ачуняння. Перагарніце старонкі вашага жыцця... Знойдуцца падзеі, якія накіравалі ваш далейшы лёс. А магло б быць зусім інакш. Усё было так проста...

Хто сёння вытлумачыць прычыну з'яў: прадчування, сумнення, настальгіі ды нейкіх прарочых сноў?

Калі гаспадар прадае жывёлу, дык ён не думае, што яе будзе з'ядаць страшная настальгія. Конь, карова, сабака і кошка заўсёды стараюцца вярнуцца да сваёй роднай мясціны. Да месца, не да гаспадара, як гэта звычайна лічаць. Таямнічая невылячальная хвароба — настальгія прымушае нашы птушкі вяртацца вясной з поўдня да нас, на месца, дзе мінула іх дзяцінства і маладосць. А колькі гэтых птушак з-за таго гіне? Так загінуў і мой жаваранак. Больш не вярнуўся ён на гліняны выкап.

А. Леўшук напісаў вельмі цікавы летапісны верш: „Што рабіў бы наш прадзед?" Калі мы сёння ў стане ўзнавіць на экране даўно памершага артыста, то такую магчымасць можа мець і АМ. А вось, знянацку Логас, як сусветны розум антыматэрыі (УФО), прыслаў здань прадзеда да А. Леўшука? Безумоўнае пытанне: „чого ты мяне чапаеш?"

Усё імкнецца да ідэальнага становішча ў прасторы ды вечнага існавання ў часе. З гэтага паміж сіламі ўзнікае змаганне. Увесь жывы свет на зямлі ўцягнуты ў арбіту дзеяння гэтых сіл. Таму надзеюся, што ў хуткім часе аўтар верша звернецца да нашага Астрона. Кашмарныя сны ў яго зусім магчымы. Так яно ёсць. Беларуская прымаўка абвяшчае: „Вер-не вер, ды не кажы, што брашу".

**інж. Б. Ф. Рудкоўскін**

## АЎГАЛОСКІ

# Не толькі мараліст, але і мінімаліст

Дзед Кастусь! Прачытаў я Вашыя выказванні („Ніва", № 31 ад 5 VIII 79 г.) наконт пастаўленага мною пытання „чаму моладзь уцякае з вёсак?" І задумаўся! Ці сапраўды Вы цэлую прычыну ўцёкаў моладзі з вёскі ў горад бачыце ў тым, што гэта стала „моднае"? Прызнаюся, мне такое высвятленне і ў галаву не прыйшло.

Адмалёўваеце ў сваім пісьме такі цікавы вобраз сучаснай вёскі, што нічога не астаецца рабіць маладым, толькі вяртацца з гарадоў на вёскі. Можа растлумачыце вы мне, дзе ляжыць таго прычына. Не ў „модзе" ж?

Расказваеце, як жылося на вёсцы 30-40 гадоў назад. Так, цяжка, вельмі цяжка было жыць. Згаджаюся з Вамі цалкам. Так як Вы, напэўна, згодзіцеся са мною, што яшчэ цяжэй было жыць 80-100 гадоў таму назад. Але ці гэта, што сучасныя ўмовы жыцця на вёсцы куды лепшыя, чым калісьці, павінна нас задавальняць, павінны мы падаць плячыма на зямлю і выць з радасці? Не, напэўна не. Тым больш, што сучасная вёска далекавата яшчэ (у адносінах жыцця) да раю. Хаця, праўду кажучы, раю і ў гарадах няма. Ці будзе? Усё залежыць ад нас. Вы, Дзед Кастусь (гэта Вашае псеўда ці імя, чаму Вы саромеіцеся свайго прозвішча?), нажылі тэлевізар, радыё і халадзільнік у хаце. Для Вас вялікае гэта дасягненне ў жыцці. Я, у сваю чаргу, ад тэлевізара, радыё і халадзільніка ў хаце пачаў жыць. І не хацеў бы закончыць свайго жыцця на гэтых прадметах.

Гаворыце Вы, што мы, маладыя, „занадта выгодныя і вымагаючыя". Ці значыць гэта, што маем ціхенька сядзець і нічога не дамагацца, па той толькі прычыне, што Вы пачалі жыць у часах, калі паяўленне хлеба на стале абазначала вялікае свята. Вам тэлевізар у хаце (з радыем на дадатак) выраشае цалкам запатрабаванне на культуру. А мне — не. І не толькі аднаму мне. Мне хочацца чагосьці больш. Хочацца непасрэднага кантакту з тэатрам, балетам, operай. Хочацца пайсці ў кіно, кабарэ, у добры клуб на сустрэчу з выдатным пісьменнікам, палітыкам. Мне хочацца **жыць!** Жыць выключна для самой працы — гэта для мяне недарэчнасць. Навошта тады ўвогуле жыць? Ці чалавек гэта машына, неразумная жывёла?

Сцвярджаеце, Дзед Кастусь, што жывучы на вёсцы таксама можна карыстацца гарадскімі прыбыткамі культуры. „Вёска сёння, — гаворыце, — мае свае матацыклы, свае таксі і спалучаная з гарадамі аўтобуснымі лініямі". Тады пагартайце хаця б некалькі нумароў „Нівы". Там людзі пішуць, як „лёгка" дабірацца з вёскі да горада і наадварот. Асабліва зімой, калі „на культуру" ёсць больш часу. Тады не стварайце на свой ужытак міфу добрай камунікацыі.

Таксама не стварайце міфу лёгкіх умоў будавання аднасямейных домікаў. У мінулым годзе я з бацькам закончыў будаваць новы дом і дасканала ведаю, чым гэта нам абышлося. Зараз будуе дом мой блізкі сябра, Вася С. Ён таксама можа сказаць Дзядзьку Кастусю, колькі гэта „малой ініцыятывы" каштуе такая справа. Што вырастаюць на вёсках новыя дамы — не доказ, што іх лёгка будаваць. Ой, Дзед Кастусь, не доказ. Верце мне. Гэта проста неабходнасць.

Пішаце таксама, што „большая частка з іх (г. зн. моладзі з вёсак, якая перанеслася жыць у гарады — дапісак мой) вольны час праводзіць пад кіёскам з півам і нідзе лепш сябе не адчувае". Адкуль Вы маеце такія дакладныя вылічэнні? Ці 100 альбо 200 гультаёў і апівошаў з-пад пару кіёскаў з півам прадстаўляе (па-Вашаму) тую частку гарадской моладзі, якая родам з вёсак. А адкуль у Вас перакананне, што тыя гультаі з-пад кіёскаў з півам — гэта „вясковыя". Тут Вы ўжо перашаржавалі. Зрэшты, з другога боку гледзячы, павінны Вы толькі цешыцца, што ўсе п'яніцы паўцякалі з вёсак, а асталіся толькі акуратныя хлопцы і

(Працяг на стар. 7)

 

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Н. перадаў у 1974 годзе гаспадарку дзяржаве за пенсію, пакідаючы сабе пляц з забудаваннямі. У гміне яму паведамілі, што ён мае прадаць будынкі, а калі б не прадаў, то пасля смерці яго і жонкі будынкі пяройдуць на ўласнасць дзяржавы. Ці калі б Н. склаў завяшчанне на карысць сына — будынкі пяройдуць на ўласнасць дзяржавы?

АДКАЗ: Ад 1.1.1978 года абавязвае новы закон з 27 X 1977 г. аб пенсійным забеспячэнні і іншых належнасцях для сялян і іх сямей. Закон гэты адносіцца і да тых, якія перадалі гаспадаркі дзяржаве, затрымоўваючы сабе пабудаванні перад 1.I.1978 г., калі абавязваў іншы закон. Паводле новага закону, будынкі пасля смерці пенсіянера і яго жонкі не пераходзяць на ўласнасць дзяржавы, а пераходзяць на іх наследнікаў. Таму пенсіянер можа завяшчаннем пераказаць будынкі на сына. Пляц, на якім знаходзяцца будынкі з'яўляецца ўласнасцю дзяржавы, а каждаразоваму ўласніку будынкаў прыслугоўвае сервітут, г. зн. права карыстання з пляцу, пакуль знаходзяцца на ім будынкі і ў выпадку продажу будынкаў пенсіянерам, або таго, хто ад яго выводзіць свае правы — дзяржаве прыслугоўвае першынства куплі. Дзяржава можа таксама выкупіць будынкі, калі б быў складзены даравальны акт.



*Вось дык баравікі!* *Фота Я. Целушэцкага.*

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, ужо амаль тры гады як я пазнаёмілася з Генікам. Было гэта ў сяброўкі на вяселлі. Калі яго ўбачыла, адразу падумала, як мне прычараваць сабе гэтага хлопца. Але і чакаць доўга не прыйшлося. Я яму, відаць, таксама ў вока ўпала. Не забуду гэтага вяселля, калі здавалася мне, што я самая шчаслівая ў свеце. Так вось пачалося наша знаёмства. Генік часта наведваў мяне. Мы кахалі вельмі адно другое і гаварылі: як толькі дарасцем да поўных лет — пажэнімся. А было мне тады 17, а Геніку 18 гадоў. Але праз год Геніка паклікалі ў войска. Мы абяцалі верна чакаць, пакуль Генік адслужыць войска. Пісалі пісьмы. Ён далёка служыў і мы бачыліся не часта. Але думкамі я заўсёды была з ім. І асталося ўжо так мала чакаць, бо восенню Генік вяртаецца з войска. Але сталася нечаканае. Я атрымала ананімнае пісьмо, што Генік мае дзяўчыну там дзе служыць, што будзе з ёй жаніцца. Сэрцайка, не ўяўляеш сабе, як мне цяжка. А яшчэ і ліст прыслаў. І нічога не ўспамінае, як бы і нічога не сталася... Не спадзяецца, што я ўжо ўсё ведаю. Ліст я спаліла, яму не адпісала. І як жыць мне цяпер?

Аня з Бельшчыны

Аня! Здаецца, непатрэбна ты так сябе ўбіваеш. Так бескрытычна ты паверыла ананіму. Мо гэта нейкі сябра Геніка з войска захацеў вось так сабе пажартаваць. Даведаўся твой адрас, ды і напісаў. А ты ўжо і ліст Геніка спаліла, і не адпісала яму. А мо ён там выглядае, чакае на вестку ад цябе, сумуе так як ты тут. Не адкладай, адпішы Геніку. Асталося ўжо так мала часу, вернецца Генік і ўсё выясніцца на месцы.

**Сэрцайка**

## Восень і восень не за гарамі

# Вось і восень не за гарамі

...І напэўна варта было б зрабіць сабе або сваім дзецям на восень нешта накшталт куртачак, прадстаўленых на нашых здымках. Звярніце ўвагу на тры дэталі. Амаль кожная з куртак мае падкладку з вельвету, большасць мае капішоны, а закончаны курткі гумкай ці сцягнуты шнурком. Добрая маці і майстрыца, памеркаваўшы, зробіць такую куртку сваімі рукамі. Вось бяда толькі з вельветам. Ляжаў і было ў магазінах поўна. Стаў модны — прапаў з полак магазінаў. Калі сапраўды хто будзе мець вялікія клопаты з купляй вельвету, можна яго замяніць нейкім матэрыялам у клетку, нятоўстым, з палатна або шэрсці.

**Сяброўка**



## Вер-не-вер

Дарагі Астроне, што можа абазначаць мой сон? Сніцца мне, што я нібыта толькі што ажаніўся, а я ўжо жанаты чалавек, у мяне дарослыя дзеці і ўнукі ўжо ёсць. Іду вуліцай Беластока і ішла мая жонка, малая і непрыгожая. Я ішоў спераду, а яна з нейкай сваячкай сваёй ззаду. Я нёс букет, ды думаю, чаму ж гэта не яна гэты букет кветак нясе, а я. Дайшлі мы быццам да рынку. Гляджу: стаіць конь, нібы прычэплены да плота. Непадалёк каня ляжала мая сумка. Я хацеў узяць, але баяўся, каб конь мяне не ўкусіў. Далей стаяла фурманка. Але ўзяў я тую сумку, а конь не кусаўся, толькі галавой памахаў. І ў гэты момант я ўбачыў свайго бацьку (ён ужо не жыве). Бацька меў яшчэ нейкую справу аформіць. І ён пайшоў у адзін бок, а я ў другі. І ў гэты момант прачнуўся.

Сцяпан

Сцяпан, будзеш мець нейкія клопаты, з якіх, аднак, вылезеш. Звязаны будуць з нейкай весткай (бо за табою ішла твая жонка), але з весткай не надта радаснай і можа звязанай з нейкімі плёткамі (жонка ж была малая і непрыгожая). Магчыма, чакае цябе нейкае падарожжа (тая сумка) з невялікімі непрыемнасцямі, пра якія хутка забудзеш, бо ўсё скончыцца добра (конь быў, ды не кусаўся, букет жа ты нёс, бацьку-нябожчыка бачыў, чаго ж яшчэ трэба?..)

**Астрон**

## Цікавінка

Вядома, што сабакі здольныя ўлоўліваць пахі, якія зыходзяць з зямлі, з глыбіні да пятнаццаці метраў. Спецыяльнай трэніроўкай савецкім геолагам удалося дабіцца, каб іх чацвераногія памочнікі рэагавалі на пахі руд, якія змяшчаюць медзь, жалеза, свінец, вальфрам і некаторыя іншыя металы. Пачуўшы патрэбны пах, сабака дае знаць чалавеку аб сваёй знаходцы. На гэтым месцы геолагі капаюць шуфр, і ўзятую з яго пробу адпраўляюць на хімічны аналіз. Не было яшчэ выпадку, каб жывёліна памылілася.

## Тайны другой сусветнай вайны



Славамір Арлоўскі

# Па слядах Янтарнага пакоя

Надвор'е ў сярэдзіне снежня стаяла незімовае. Некалькі дзён у Кенігсбергу ліў дождж упераменжку з густым, ліпкім, мокрым снегам.

Прафесар Брусаў гуляў у шахматы з маёрам Волкавым. Размова, як заўсёды, ішла аб пошуках твораў мастацтва, аб Янтарным пакоі, аб доктару Родэ і загадкавым знікненні Колева.

Прафесар расказваў маёру аб гутарцы, якая некалькі дзён назад адбылася ў яго з доктарам Родэ.

— К канцу рабочага дня па яго зайшла жонка. Мы загаварылі аб мастацтве, і, трэба сказаць, пані Родэ вельмі добра разбіраецца ў ім. Яна пацікавілася, як ідзе расчыстка Жытомірскай вуліцы, і, дзіўная рэч, абое ўвесь час вярталіся да гэтай тэмы. Быццам хацелі даць мне зразумець, што там штосьці схавана, а ў час гутаркі доктар не зводзіў вачэй з жонкі.

— Відаць, чакаў ад яе падтрымкі і адабрэння сваім паводзінам, — зазначыў маёр і зрабіў ход ладдзёй.

Потым размова абарвалася, прыехалі нямецкія рабочыя, прывезлі скульптуры з былой Акадэміі мастацтваў.

— Вы павінны пагаварыць з ім адкрыта, гэта неабходна, верце мне. Калі гэта сумленны чалавек, ён скажа, што яго непакоіць, а нам, магчыма, удасца адшукаць нашы самыя каштоўныя экспанаты. Такім чынам, шах і мат, — маёр закончыў гульню. — Згуляем яшчэ? — весела спытаў ён у прафесара.

— Не, пазнавата ўжо, — устаяў перад спакусай вучоны. — Раскажу вам на развітанне адзін вельмі цікавы выпадак.

— Тры дні назад, на наступны дзень пасля размовы, якая адбылася ў прысутнасці пані Родэ, мы з доктарам паехалі на Амаліенаў у Акадэмію мастацтваў на Рацліндэнштрасэ, 40 аглядзець пашкоджаныя экспанаты. Адтуль накіраваліся ў Стары горад: там на Парадэплац знаходзіўся калісьці Універсітэт Альберта, які называўся часта Альберцінай, — пачаў прафесар. — Нам стала вядома, што ў падвалах Альберціны схаваны нейкія экспанаты. Відаць, гутарка ішла аб карцінах і скульптурах, якія многія стагоддзі ўпрыгожвалі сцены гэтай старой, навучальнай установы, што верна служыла навуцы. Нам удалося знайсці там некалькі зробленых з янтару рэчаў — парусныя караблі і кубкі. Доктар вельмі абрадаваўся ім, бо экспанаты былі вельмі каштоўныя. Некаторыя з іх былі яму знаёмы, і на зваротным шляху ён расказаў мне пра іх шмат цікавага. Я палічыў акалічнасці вельмі спрыяльнымі і загаварыў пра Янтарны пакой.

Прафесар зрабіў невялікую паўзу, адпіў глыток чаю і працягваў:

— Вярнуўшыся да сябе, мы папрасілі гарачага чаю, паколькі дзень быў дажджлівы і мы прамерзлі да касцей. Калі гутарка зайшла аб знойдзеных фігурках, я зноў успомніў пра Янтарны пакой. Мае словы аб тым, што гэта унікальны твор мастацтва велізарнай каштоўнасці, магчыма, псуецца дзесьці з-за дрэнных умоў захоўвання, засмуцілі яго. Я ўспомніў таксама аб тым, што пакой выкрадзен гаўляйтэрам Кохам і фельдмаршалам Кюхлерам. Ён уважліва выслухаў мяне і, быццам у апраўданне, сказаў: „Я ніколі не быў і ніколі не буду прыхільнікам насілля і грабяжу". А потым доўга гаварыў пра пакой. Я быў упэўнены, што ведаю пра гэты цудоўны твор усё, але высветлілася, што гэта зусім не так. Доктар заўважыў, што ён адабрае прысваенне пакоя, але лічыць, што перавоз у Кенігсберг выратаваў яго ад разбурэння ў час ваенных дзеянняў або ад магчымай адпраўкі ў глыбіню рэйха. Ён расказваў мне, што загад аб вывазе Янтарнага пакоя быў дадзены зверху і ад яго ў гэтым выпадку нічога не залежала.

— Гэта вельмі важная гутарка. Такім чынам, лёд крануўся. Добра, вельмі добра, — пахваліў прафесара маёр Волкаў. — Расказвайце далей, вельмі цікава.

— Наша размова была перапынена тэлефонным званком з Масквы, а калі я вярнуўся, рабочы дзень набліжаўся к канцу. Мы развіталіся, але доктар Родэ з таямнічым выглядам паабяцаў мне прынесці на наступны дзень нешта вельмі цікавае наконт Янтарнага пакоя. І ўчора ён сапраўды прынёс мне „штосьці" незвычайнае і абураючае.

Прафесар устаў і падышоў да вешалкі, на якой вісеў яго партфель, пакорпаўся ў адным з аддзяленняў і дастаў адтуль газету. Маёр з адкрытым расчараваннем пазіраў на яго. Ён спадзяваўся, што прафесар пакажа яму план Кенігсберга з указаннем месц, дзе схаван Янтарны пакой, або, нарэшце, які-небудзь кавалак янтару. Вучоны падышоў да стала і разгарнуў газету.

*(Працяг будзе)*



 

# ТРЫБУНА чытачоў

### НА ДРУГІМ КАНЦЫ ГАЙНАЎКІ

Выконваючы просьбу рэдакцыі, пайшоў я на другі канец Гайнаўкі, каб пагаварыць і перапрасіць нашага чытача Сямёна Лобача за няўдачу ў падпісцы „Нівы“. На полцы каля стала, апрача ўсіх нумароў „Нівы“ з бягучага года, ляжала „Праўда“, „Известия“ і многа іншых газет.

— Адкуль у вас зацікаўленні „Нівай“? — спытаў я.

— Я чытаю многа газет, бо цікаўлюся ўсім, што робіцца на божым свеце. Але „Ніва“ мне асабліва дарагая, бо яна наша беларуская газета. Я сам беларус — з крыві і косці, ураджэнец вёскі Лука, што ў Нараўкаўскай гміне. Сярод беларусаў пражыў усё сваё жыццё, апошнія 15 гадоў жыву ў Гайнаўцы.

Помню добра, як за старой Польшчы цяжка было дастаць беларускую кніжку ці газету, а цяпер няма ніякіх перашкод.

У хаце Лобача застаў яго жонку Соню, з якой Сёма пражыў дружна і шчасліва 55 гадоў.

У хаце Лобачаў акрамя беларускіх кніжак і газет, знойдзеце многа грампласцінак з беларускімі песнямі і музыкай у добрым выкананні. Лобачы любяць наставіць пласцінку і паслухаць спакойна добрай музыкі.

**Э. Вайсковіч**

## Паміж Кнаразамі і Грыневічамі Вялікімі

Паміж гэтымі дзвюма вёскамі на грынявіцкім палетку ёсць некалькі дзесяткаў гектараў няўгоддзяў. Там спрадвеку ў час засухі вецер узнімаў пыл. А цяпер людзі перамаглі той пыл. На тым месцы пасадзілі лес. Было гэта некалькі гадоў пасля вайны, цяпер ужо з Кнаразоў Грыневіч амаль не відаць, бо усё засланяе малады лес.

**Міхал Кірылюк**

### ПАРНАС. Чытальніцкая літсуполка на негарантаваных паях

**СЛЕСАР**

*З Рыбакоў зайсці на горку*
*І, спусціўшыся з гары,*
*Прамінуць пару падворкаў —*
*Тагды вёска Бандары.*

*Там стаяў млын пры дарозе,*
*муку малоў зярно.*
*Цяпер малоць туды не возім,*
*Ужо няма яго даўно.*

*Там стаіць цяпер слесарня,*
*Недалёка ад вады,*
*А ў слесарні той такарня,*
*Точыць токар малады.*

*Ён, як точыць, не праочыць*
*На адзін на валасок,*
*І жалеза, і сталь сточыць*
*Два кускі ў адзін кусок.*

*Бацюшка, якбы на раты,*
*Прыязджаў кілька разоў*
*Заказаць у царкву краты,*
*Каб не ўкралі абразоў.*

*Выйшла крата —усё з жалеза,*
*Яшчэ й браму зрабіць змог.*
*Цяпер злодзей не пралезе,*
*А каб нават ён і здох.*

*Працы слесар многа мае —*
*Ужо робіць пару лет,*
*Яму часам памагае*
*Працавіты яго дзед.*

**Ф. Х.**

### Кажуць, што...

Малако ў злеўні ў вёсцы Сакі Кляшчэлеўскай гміны бывае часта поснае (кароткае). І дзіўна, што тыя пастаўшчыкі, якія не махлююць маюць горшы працэнт. Аб гэтым варта запытацца ў самой малачаркі і кантралёраў, якія на „горача“ некалькі разоў выявілі махлярства, аднак ніякіх сродкаў не прынялі, каб непажаданую з'яву выкараніць.

**П. Д.**

## Крама ў Завыках будзе адкрыта

Цэлае лета жыхары вёскі Завыкі мучыліся без сваёй крамы. Урэшце тая мука скончыцца, бо краму адкрываюць. Знайшлася прадаўшчыца са сваёй вёскі, яна была некалькі гадоў прадаўшчыцай у клубе гаспадара. Калі закрылі клуб, яна стала гандляваць у кіёску „Рух“. А вось адважылася стаць у краме. Як ёй пойдзе праца, пакажа будучыня.

А вось іншая бяда вёскі. Ночы становяцца штораз даўжэйшыя, а на вуліцы ўжо два гады цемра. На стаўбах павесілі нейкія карыты, як бы хацелі кагосьці запужаць. Але гэта нікога не пужае, толькі вось у 1978 годзе ў гэтай цемры краму абакралі і след па злодзею прапаў. І міліцыйны сабака нічога не знайшоў.

**Незнаёмы**

## Нарада ў Шудзялаве

У Шудзялаўскай гміне адбылася супольная нарада гміннага камітэта ПАРП і ЗСЛ на тэму павелічэння гадоўлі жывёлы. Удзел прынялі дырэктары устаноў, актывісты і сельскагаспадарчая служба гміны. Нараду вяла сакратар гміннага камітэта партыі Барбара Чыжэўская. З абшырным дакладам выступіў начальнік гміны Чэслаў Бэткал. Ён накрэсліў сітуацыю, якая вяжацца з сёлетнім неўраджайным годам. Вельмі моцна падкрэсліваў патрэбу і магчымасці развіцця жывёлагадоўлі — кароў і свіней. Гаварыў аб загаспадараванні на карысных умовах зямлі з дзяржаўнага фонду зямлі, заахвочваў да развіцця спецыялізацыі ў гадоўлі малочных кароў, свіней і авечак. Многа гаварылася на нарадзе аб дакладнай уборцы плёнаў гэтага года, каб нічога не змарнавалася, а таксама аб засяванні на палях паплёнаў, патрэбных на корм для жывёлы.

**А. Б.**

## Толькі знойдзецца на апарат

У вёсцы Тапаркі Кляшчэлеўскай гміны часта псуецца тэлефон, а ў апошні час зусім замоўк. Майстры дайшлі да вываду, што няма чаго ўжо ў ім ладзіць, бо апарат гэты надаецца толькі на злом. Трэба ўставіць новы апарат, ды на яго Кляшчэлеўская гміна не хоча даць грошай. А варта прыпомніць, што Тапаркі не так і малая вёска, каб у цяперашні час можна было абысціся без тэлефона, які на кожным кроку патрэбны не толькі гарадскім людзям, але і вясковым таксама. Другая справа столькі грошай, як на апарат, павінна знайсціся ў кожнай гміне.

**П. Д.**

## Дарога адрамантавана

Каля вёскі Рудуты Арлянскай гміны на дарозе, якая спалучае вёску з асфальтоўкай Дубічы Царкоўныя—Орля быў зроблены рамонт. Машынай-раўняркай выраўнялі гэтую дарогу, якую даўней у народзе называлі „д'ябальскімі варотамі“ (некалькі разоў было пра яе ў „Ніве“). Цяпер у час дажджоў няма на дарозе балота, гразі і калдобінаў, у якіх людзі з фурманкамі тапіліся. Цяпер засталося толькі зажвіраваць дарогу, і думаю, што жыхары грамадскім чынам гэтую работу выканаюць, бо па іх жа ініцыятыве і рамонт быў праведзены.

**М. Панфілюк**

### БОЛЬШ ЗАЦІКАЎЛЕННЯ

У Кузаве жыве адзінокая бабулька Ганна Саўчук. Гэта ўдава па былым шматгадовым солтысу. Ёй зараз каля 80 гадоў. Жыве ў вёсцы, быццам сімвал адзіноцтва. Праўда, ёсць у яе дзеці, унукі, ды ў кожнага сваё жыццё, свая сям'я. А бабульцы цяжка зарабіць недзе грошы. Ніякай фінансавай дапамогі не атрымлівае. Адна толькі дачка Ніна з сваім сынам Янкам заглядае час ад часу да бабулі.

Давялося мне гаварыць з Ганнай Саўчук. Цяжка ёй дажываць свой век. „Калісь, — кажа бабулька, — да майго пакойнага ўсе прыходзілі за справамі — і гмінныя чыноўнікі, і аднавяскоўцы. А цяпер я нікому непатрэбна“. На паморшчаным твары бачу слёзы. І сэрца сціскаецца.

Я звярнуўся ў гміну па просьбе Ганны Саўчук, каб памагчы ёй хоць крышачку ў далейшым жыцці. Вось што сказаў сакратар гміны Мікалай Кулік: „Пастаяннай грашовай дапамогі мы даць не можам. Ды зважаючы на цяжкія абставіны Ганны Саўчук, можна раз у год прызнаць ёй нейкую суму“.

Спадзяемся, што гміна стрымае сваё слова, што і дзеці пацікавяцца доляй маці, і вясковы грамадскі апекун, якога справа таксама датычыць. **(ус)**

### ГАЙНАЎКА І БЕЛЬСК

У Бельску адбылося супольнае пасяджэнне камісій гандлю аддзелаў ВСС — гайнаўскага і бельскага. Члены камісіі наведалі каля 10 бельскіх спажывецкіх крамаў і два гастраномы — кавярню „Гайдучок“ і бар на вуліцы Крынічнай. Паводле ацэнкі членаў гайнаўскай камісіі пад старшынствам інж. Лявона Дубаса бельскія крамы лепш забяспечаны, чым гайнаўскія, па той прычыне, што гуртоўня знаходзіцца ў Бельску і, згодна з прымаўкай „уласная кашуля бліжэй цела“, спажывецкія тавары хутчэй трапляюць у рукі бельскіх пакупнікоў.

Трэба сказаць, што ў Бельску вельмі прыгожая спажывецкая крама нумар 4 — вялікая, добрыя ўмовы працы.

Добра помнім, у якіх умовах працавалі некалі бельскія гандлёўцы. Усё гэта прайшло і забылося. Цяпер гандлёвая база Бельска не горшая ад гайнаўскай і нашы суседзі мелі чым пахваліцца.

**Э. Вайсковіч**

### БУДУЮЦЦА ДАРОГІ

У апошні час у Арлянскай гміне з вялікім размахам вядуцца рамонты і пабудова дарог. Рамонт дарогі правялі ад Крываціч у Чорны лес, укладваецца асфальт на дарозе з Орлі ў Бельск, жвіровую паверхню робяць на дарозе Орля-сяло — Спічкі. У сяле Крываціцы закончылася ўкладванне тратуараў.

**Іван Кірызюк**



### НАША ПОШТА

Прайшло 10 гадоў з таго часу, калі я, бывала, да вас пісаў. Некалькі дзён таму я знайшоў у сябе кніжку і дыплом, якія атрымаў ад вашай рэдакцыі ў 1967 годзе. Найперш перапрашаю, што не пішу па-беларуску, так даўно ўжо не пісаў.

На пачатку хачу сардэчна прывітаць паноў Хмялеўскага і Целушэцкага. І хачу расказаць вам такую справу. Каля 10 гадоў таму праз нашу вёску Масева І была праведзена тэлефанічная лінія ў глыб Белавежскай пушчы. Лінія даўжынёй 3 кіламетраў за вёскай аж да супрацьпажарнай вежы. Гэта супрацьпажарная вежа ўжо некалькі гадоў стаіць панішчаная, бетонныя стаўбы паламаныя, драты вісяць, што пагражае праязджаючым працаўнікам лесу. У вёсцы стаўбы пастаўлены на тратуарах, у некаторых месцах адразу каля брамкаў на гаспадарскія панадворкі. І так марнуецца доўгая лінія, якая цяпер нікому не служыць.

Думаю, што варта ў „Ніве“ апісаць гэтую справу, якой трэба заняцца і давесці да парадку.

**УКС**
Масева

**Ад рэд.** Хочам прыпомніць вам і ўсім нашым чытачам, якія хацелі б напісаць, а не надта добра ведаюць літаратурную беларускую мову, што можна да нас пісаць як хто ўмее. Зразумела аднак, што нашым чытачам найлепш выходзяць іх думкі выказаныя беларускай мовай, хоць бы яе дыялектам, напрыклад, з вёскі Масева ці кожнай іншай. Пішыце як гаворыце! А чытача з Масева просім аднавіць свае кантакты з „Нівай“.

(Працяг са стар. 5)

### АДГАЛОСКІ

дзяўчаты. Аднак жарты ў бок. Дзед Кастусь, калі будзеце ў горадзе, не хадзіце толькі каля кіёскаў з півам, загляньце ў кіно, тэатр, клубы. А напэўна пераканаецеся, што тыя з-пад кіёску з півам — вельмі нязначны працэнт усёй жывучай у горадзе моладзі.

Не магу з Вамі згадзіцца, што моладзь у гарады пхаюць самыя бацькі дзеля толькі таго, каб іхнія дзеці не былі горшыя ад дзяцей суседзяў, якія ўжо жывуць у горадзе. Не згаджаюся таму, што надта часта сутыкаюся з тымі ж бацькамі, якія гавораць, што іх дзеці самыя ўцякалі ў горад, хаця яны хацелі, каб засталіся на гаспадарцы і нават стваралі ім да працы адпаведныя ўмовы. Як жа часта ўсе мы чуем нараканне старых бацькоў: „Мы тут гаруем ад світання да змроку (а Вы, Дзед Кастусь, гаворыце якраз, што лёгка цяпер працаваць на полі — „не кара Божая гэта“), а яны (значыць іх дзеці або ўсе жыхары горада) адпрацуюць 8 гадзін і ідуць на шпацыр у парк, у кіно, у тэатр. Добра ім жыць!“

Назвалі Вы сябе, Дзед Кастусь, маралістам. Вы і сапраўды мараліст. А і ад таго мінімаліст. Ваш кругагляд — каб толькі „дастатак на стале, у кладоўцы і ў халадзільніку“. Пры такім кругаглядзе жывот напэўна будзе заўжды поўны. А мне хацелася б, каб і стравы для душы заўжды было давволі. Малая прага, і вялікая адначасова.

Не абражайцеся, Дзед Кастусь, на мяне за гэтыя словы. Мо яны і завострыя, але зразумейце, што дамагацца ад нас, маладых, выказвання ўпойнага задавальнення тым, што мы маем, што Вы, старэйшае пакаленне, нам далі — нельга. Мы Вам дзякуем за ўсё гэтае, але адначасова маем права і маральны абавязак дабівацца яшчэ чагось лепшага, жыццё нашае ўпрыгажаць, а не лянівець у ім.

**Пётр Байко**

### „ЖУРАВЕЛЬ“ НЕ ПАВІНЕН ЗВАЛІЦЦА

У сваёй інфармацыі „Жураўлі“ ад 12 жніўня Міхал Кірылюк піша, што жураўлі над калодзежамі не толькі ўпрыгожваюць краявід, але становяцца часта небяспечнымі. Для прыкладу падае, што ў Кнаразах у час вяселля журавель такі зваліўся і толькі шчасце, што маладажоны ўспелі ўцячы.

Мне гэта смешна. Бо я яшчэ не чуў, каб журавель кагосьці забіў, так як не чуў, каб метэарыт з неба ўпаў якраз на чалавека. На вяселлі магло быць па-рознаму, госці п'яныя маглі раскачаць той журавель, каб ён якраз упаў на маладажонаў, бо тыя мо не хацелі даць на выкуп літр самагонкі. Пасмяюцца, моў, і канец.

Па-другое, гэта ўжо не гаспадар, які трымае журавель у такім відзе, што ён можа зваліцца. Гаспадар зрабіў бы рамонт таго жураўля, або паставіў бы іншы, каб і надалей ён упрыгожваў панадворак.

**М. Панфілюк**

### УРА, ЗРАБІЛІ!

Зноў давялося мне ехаць у Орлю і зноў валасы дыбам ставалі, калі думаў, як я праеду дарогу ад шашы Бельск—Гайнаўка ў Орлю, аб якой нядаўна пісала „Ніва“. Страх мой аказаўся зусім непатрэбным, бо ад Парцава ў Орлю, глядзі ты, хоць бяры і яйцо каці, такая добрая дарога. Не паспелі толькі зрабіць яшчэ такой самай добрай дарогі на адрэзку ад шашы да Парцава.

Вось малайцы, пастараліся і трэба сказаць, што засаромелі мяне, бо і я пісаў аб гэтым бруку, ды лічыў, што няма каму яго паладзіць. Тым часам аказалася, што ў Орлі ёсць людзі, якія думаюць па-гаспадарску. І не трэба занадта да іх мяшацца. Колы маёй „Сірэны“ шыпелі на свежым асфальце, а я памягчэў душою і нават перастаў злавацца на той кусок дарогі, які праехаў у скоках. Дзякуй вам, добрыя гаспадары, за добрую дарогу!

**Васіль Петручук**

ГУМАР З БАРАДОЙ

## Як кацёл памёр

Неяк надумаў селянін абдурыць купца, бо занадта ж той за яго кошт жывіўся. Прыходзіць, значыцца, да яго і просіць:

— Пазыч катла, хачу ракію выгнаць. Хутка аддам, ды і заплачу добра.

Пакапаўся купец і згадзіўся. Праз які тыдзень прыходзіць селянін зноў і прыносіць маленечкі кацялочак.

— Вось, — кажа, — ацяліўся твой кацёл, прывёў табе целючка... Што не маё, мне не трэба.

— Няблага! — радуецца купец. — Відаць, што ты чалавек сумленны. Дзякуй табе!

— Але, — дадае селянін, — няхай вялікі кацёл яшчэ ў мяне пастаіць, акрыяе троху — не магу я яго, слабога пасля ацёлу, адправіць да цябе.

— Няхай, — згаджаецца купец.

Прайшоў нейкі час. Аднойчы прыбягае селянін і з парога:

— Бяда, пане!

— Якая?

— Памёр твой кацёл!

— Што ты вярзеш, сабачы сын?! — крычыць купец. — Як гэта кацёл можа памерці?

— Як-як? Усё, што родзіцца, ды яшчэ родзіць, мусіць памерці.

Не згаджаўся купец, справа да суда дайшла. Але скончылася тым, што селянін усё ж атрымаў вялікі кацёл за маленькі.

*(З Югаславіі)*



## З Д А Р Э Н Н Е

У 8 вечара трое прыйшлі на вакзал.

— Калі будзе поезд у суседні горад? — спыталі яны ў служачага чыгункі.

— Праз паўгадзіны.

— Добра, — адказалі яны і рушылі ў буфет.

Праз гадзіну яны зноў падышлі да служачага:

— Ці хутка будзе наступны поезд?

— Праз паўгадзіны.

—Добра, — адказалі яны і зноў зніклі ў буфеце.

Праз гадзіну яны зноў звярнуліся да служачага з тым жа пытаннем.

— Праз паўгадзіны, але ўжо апошні, — зазначыў чыгуначнік.

— Цудоўна! — і яны зноў накіраваліся ў буфет.

Праз 40 мінут яны выбеглі на перон, ад якога ўжо адыходзіў апошні поезд.

Двое кінуліся за поездам. Праз некалькі хвілін яны ўскочылі ў дзверы апошняга вагона. Трэці стаяў на пероне і моцна смяяўся.

— Чаго ты смяешся? — падышоў да яго чыгуначнік.

— А што мне — плакаць? Ехаць павінен быў я. Яны мяне толькі праводзілі!

# НІЎКА

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Адзін модны парыжскі лекар здабыў сабе вялікую папулярнасць сярод пацыентаў, унушаючы ім, што ўсе іх хваробы выдумка. Аднойчы ён быў запрошаны да буйнага фінансіста, сакратар якога прыняў яго і сказаў:

— Шэф вельмі цяжка хворы.

— Не веру, — сказаў доктар, — ён толькі думае, што хворы.

Выпісаўшы рэцэпт, доктар сказаў, што наведаецца праз некалькі дзён. Прыйшоўшы зноў, ён пацікавіўся ў сакратара:

— Ну, як сябе адчувае ваш шэф сёння?

— Нічога асаблівага, толькі ён думае, што ўжо памёр...



Made in Zadrypanka

ТРЫМАЙЦЕ ВУХА?

*Каму прыслухоўвацца — той здагадаецца*

## ДУБ І ДЗЯЦЕЛ

*На дуб магутны*
*Сеў насаты дзяцел.*
*І ў грудзі яму*
*Стук ды стук.*
*— Эй, — Дуб крычыць, —*
*Ты звар'яцеў,*
*Прыяцель!*
*А Дзяцел:*
*— Думаю цябе лячыць,*
*Дыягназ у мяне такі:*
*Кару тваю*
*Усё точаць чарвякі.*
*— Вон! — крыкнуў Дуб, —*
*Такога не сцярплю,*
*Я сто гадоў расту,*
*Шумлю.*
*І прашумлю яшчэ*
*Са сто,*
*Не страшна мне*
*Нішто!*
*— Ну, калі гоніш,*
*Палячу.*
*Другія дрэвы*
*Палячу.*
*Ды вось баюся,*
*Што дасі ты дуба.*

*— Вон, вон, ляці! —*
*Дуб адгукнуўся груба.*
*І Дзяцел ціха паляцеў*
*Лячыць бярозы, клёны,*
*Ды хутка Дуб зялёны*
*Стаў чэзнуць,*
*Пажаўцеў,*
*Бо пад карой*
*Як след папрацаваў*
*Пражора-караед!*
*І свет для Дуба*
*Ужо не люб.*
*Ды Дзяцел зноўку*
*Тут як тут.*
*І Дуб прамовіў:*
*— Не крыўдуй,*
*Мой дружа,*
*На старога,*
*Што размаўляў тады*
*З табой я строга.*
*Бі па кары,*
*Дзяўбі ямчэй,*
*Ды толькі вылечы*
*Мяне хутчэй.*

**Аляксандр Калган**



Што вы, што вы! Мяне цікавяць не грошы, а спосаб іх атрымання!

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе А. К. з Ялоўкі змяшчаем песню з рэпертуару Алы Пугачовай*

## Всё могут короли

**Музыка Б. Рычкова**
**Слова Л. Дербенева**

Жил да был,
Жил да был,
Жил да был один король.
Правил он как мог страною
И людьми.
Звался он Луи Второй,
Звался он Луи Второй,
Но, впрочем, песня не о нем,
А о любви.
В те времена жила
Красавица одна.
У стен дворца она
Пасла гусей.
Но для Луи была милее всех она.
Решил Луи,
Что женится на ней.

Припев:
Всё могут короли,
Всё могут короли.
И судьбы всей земли
Вершат они порой.
Но что ни говори —
Жениться по любви
Не может ни один,
Ни один король.
Не может ни один,
Ни один король.

Я женюсь,
Я женюсь,
Я женюсь, — Луи сказал,
Но сбежались тут
Соседи короли.
Ой, какой же был скандал!
Ну, какой же был скандал!
Но, впрочем, песня не о нем,
А о любви.
И под венец Луи
Пошел совсем с другой.
В родне у ней
Все были короли.
Но, если б видел кто
Портрет принцессы той,
Не стал бы он завидовать Луи.
Припев.

### ТАЛЕНТ

Маці да бацька:

— Ты толькі падумай, наш Іван з'еў цэлую міску варэнікаў.

— А вы думалі, што я нічога не магу! — горда сказаў Іван.



**З „Весніка Задрыпоніі"**

### ЦЭННАЕ ПАЧЫНАННЕ

Дзень крытыкі ўстаноўлены на заводзе жалезабетоннай садовай мэблі. У гэты дзень падначаленыя могуць не толькі за вочы, але і непасрэдна, з вока ў вока, гаварыць начальніку ўсё, што яны аб ім думаюць.

### ПЫТАННЕ ЗАДРЫПШСАРА

Ці можна абліць каго граззю, калі яна лячэбная?



### ДРОБЯЗЬ

Пасля рэгістрацыі шлюбу маладыя ідуць паркам.

— Ты мяне кахаеш, Рэната?

— Але я не Рэната — абурана кажа яна. — Я Ніна!

— Госпадзі! Калі ты з такой дробязі робіш праблему, дык лепш нам развесціся.



# Курёзы

### БЕДНЫ КАРОЛЬ

Не так даўно ў іспанскім друку прадметам абмеркавання быў падарунак каралю Іспаніі Карласу, які яму зрабіў яго добры сябра, былы ўладар авіякампаніі Дон Мануэла. А падараваў ён ні больш ні менш як сучасную фешэнебельную вілу ў Англіі, непадалёк ад Лондана.

Чытачы разважалі: навошта спатрэбілася іспанскаму каралю віла ў чужой краіне? Няўжо ён збіраецца пераехаць туды жыць? Ці, можа, нават прэтэндуе на трон Вялікабрытаніі? Ды гэткія здагадкі не маюць падставы. Сутнасць багатага сяброўскага сюрпрызу заключаецца ў тым, што кароль іспанскі, на думку яго адданага прыяцеля, павінен мець уласнае жытло і ў Англіі, каб, прыязджаць туды час ад часу, не шукаць начлегу недзе ў гарадскім атэлі. Па-першае, гэта не забяспечвае пажаданага камфорту, па-другое, калі ў гасцініцы займаць нумар з прэтэнзіямі на каралеўскую раскошу, дык даводзіцца плаціць немалыя грошы. А так будзе куды эканомней.

Відаць, тое, што кароль Іспаніі Карлас, апрача вялікіх матэрыяльных каштоўнасцей, валодае некалькімі палацамі і віламі ў сваёй краіне, а таксама за яе межамі, яшчэ не дае падставы лічыць яго дастаткова багатым чалавекам. Хутчэй за ўсё па каралеўскай мерцы ён бедны чалавек.

### СА СТАРЫХ ГАЗЕТ

„У голасе артыста толькі рэшткі ранейшай велічы, але гэтыя рэшткі настолькі значныя, што змаглі зрабіць моцнае ўражанне на публіку".

Смяемся з намі

**Адны думаюць, як папасці ў рай, а іншыя — аб тым, што там рабіць.**